Народная Воля
28 СНЕЖНЯ 2005 г.

# Каляндарны план кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

*(складзены на падставе Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь)* *

| Змест мерапрыемства | Тэрмін выканання | Суб'екты |
|---|---|---|
| **Фарміраванне камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, стварэнне ўчасткаў для галасавання** | | |
| Вылучэнне прадстаўнікоў у склад абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх (у гарадах абласнога падпарадкавання), раённых у гарадах камісій. Прадстаўленне ў органы, што фарміруюць камісіі, пратаколаў сходаў (канферэнцый), пасяджэнняў альбо заяў грамадзян аб вылучэнні прадстаўнікоў у склад камісій *(не пазней за тры дні да вызначанага выбарчым заканадаўствам тэрміну фарміравання камісіі)* | Не пазней за 25 снежня 2005 г. уключна | Палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, грамадзяне шляхам падачы заявы |
| Стварэнне тэрытарыяльных камісій *(не пазней за 80 дзён да выбараў)* | Не пазней за 28 снежня 2005 г. уключна | Прэзідыумы абласных, Мінскага гарадскога, раённых, гарадскіх Саветаў дэпутатаў і выканаўчыя камітэты |
| Стварэнне ўчасткаў для галасавання *(не пазней за 2 месяцы да выбараў)* | Не пазней за 17 студзеня 2006 г. уключна | Раённыя, гарадскія выканаўчыя камітэты, мясцовыя адміністрацыі па ўзгадненні з адпаведнымі тэрытарыяльнымі камісіямі, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь |
| Інфармаванне выбаршчыкаў пра межы ўчасткаў для галасавання з пазначэннем месца знаходжання ўчастковай камісіі і памяшкання для галасавання *(у дзесяцідзённы тэрмін з дня стварэння ўчасткаў для галасавання)* | Не пазней за 27 студзеня 2006 г. уключна | Раённыя, гарадскія выканаўчыя камітэты, мясцовыя адміністрацыі па ўзгадненні з адпаведнымі тэрытарыяльнымі камісіямі, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь |
| Вылучэнне прадстаўнікоў у склад участковых камісій. Прадстаўленне ў органы, што фарміруюць камісіі, пратаколаў сходаў (канферэнцый), пасяджэнняў альбо **заяў грамадзян аб вылучэнні прадстаўнікоў у склад камісій** *(не пазней за тры дні да вызначанага Выбарчым кодэксам тэрміну стварэння камісіі)* | Не пазней за 29 студзеня 2006 г. уключна | Палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, **грамадзяне шляхам падачы заявы** |
| Стварэнне ўчастковых камісій *(не пазней за 45 дзён да выбараў)* | Не пазней за 1 лютага 2006 г. уключна | Раённыя, гарадскія выканаўчыя камітэты, мясцовыя адміністрацыі, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь |
| Правядзенне першых пасяджэнняў участковых камісій *(не пазней як праз тры дні са дня стварэння камісій)* | Не пазней за 4 лютага 2006 г. уключна | Раённыя, гарадскія выканаўчыя камітэты, мясцовыя адміністрацыі, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) |
| Апублікаванне рашэння аб стварэнні ўчастковых камісій з пазначэннем іх складу, месца знаходжання, нумароў тэлефонаў *(не пазней як праз сем дзён са дня стварэння камісій)* | Не пазней за 8 лютага 2006 г. уключна | Раённыя, гарадскія выканаўчыя камітэты, мясцовыя адміністрацыі, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) |
| **Вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь** | | |
| Падача ў Цэнтральную камісію спіса членаў ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь (далей — "ініцыятыўная група") разам з заявай аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы *(не пазней за 85 дзён да выбараў)* | Не пазней за 23 снежня 2005 г. уключна | Асоба, якая мае намер вылучыцца кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь |
| Рэгістрацыя ініцыятыўных груп і выдача членам ініцыятыўных груп адпаведных пасведчанняў і падпісных лістоў | У пяцідзённы тэрмін пасля падачы заявы аб рэгістрацыі | Цэнтральная камісія |
| Вылучэнне кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь *(пачынаецца за 80 дзён і заканчваецца за 50 дзён да выбараў)* | З 29 снежня 2005 г. па 27 студзеня 2006 г. уключна | Ініцыятыўныя групы |
| Здача падпісных лістоў у раённыя, гарадскія, раённыя ў гарадах камісіі *(не пазней за 50 дзён да выбараў)* | Не пазней за 27 студзеня 2006 г. уключна | Члены ініцыятыўных груп |
| Прадстаўленне ў Цэнтральную камісію дакументаў, неабходных для рэгістрацыі кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь | З 28 студзеня па 11 лютага 2006 г. уключна | Асоба, вылучаная кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, альбо кіраўнік ініцыятыўнай групы |
| Рэгістрацыя кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь *(пачынаецца за 35 дзён і заканчваецца за 25 дзён да выбараў)* | З 12 па 21 лютага 2006 г. уключна | Цэнтральная камісія |
| У асобных выпадках — падаўжэнне тэрміну рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь *(не больш як да пяці дзён)* | Да 26 лютага 2006 г. уключна | Цэнтральная камісія |
| Рэгістрацыя давераных асоб кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і выдача ім пасведчанняў (колькасць давераных асоб — да 30 чалавек) | З моманту рэгістрацыі кандыдата — у трохдзённы тэрмін з дня падачы кандыдатам спіса давераных асоб | Цэнтральная камісія па заяве кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь |
| **Перадвыбарная агітацыя і складанне спісаў выбаршчыкаў** | | |
| Ажыццяўленне перадвыбарнай агітацыі *(да дня напярэдадні даты галасавання)* | Да 18 сакавіка 2006 г. уключна | Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, ініцыятыўныя групы, кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і іх давераныя асобы |
| Падача кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь для апублікавання ў дзяржаўным рэспубліканскім друку перадвыбарных праграм кандыдатаў памерам да двух друкаваных старонак *(не пазней за 20 дзён да выбараў)* | Да 27 лютага 2006 г. уключна | Кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі і сродкі масавай інфармацыі, што часткова фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, а таксама сродкі масавай інфармацыі, заснавальнікам альбо адным з заснавальнікаў якіх з'яўляецца дзяржаўны орган альбо арганізацыя |
| Афармленне на ўсіх выбарчых участках стэндаў з інфармацыйнымі матэрыяламі пра кандыдатаў *(афармляюцца не пазней за 14 дзён да выбараў і захоўваюцца ў дзень галасавання)* | Да 5 сакавіка 2006 г. | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Апублікаванне вынікаў апытанняў грамадскай думкі, звязаных з выбарамі, прагнозам іх вынікаў *(забараняецца за дзесяць дзён да дня выбараў)* | Да 9 сакавіка 2006 г. | Усе суб'екты агітацыі |
| Прадстаўленне спісаў грамадзян, што маюць права ўдзельнічаць у выбарах, для ўсеагульнага азнаямлення *(не пазней за 15 дзён да выбараў)* | Да 4 сакавіка 2006 г. уключна | Участковыя выбарчыя камісіі |
| **Арганізацыя галасавання, вызначэнне вынікаў галасавання, вызначэнне вынікаў выбараў** | | |
| Інфармаванне выбаршчыкаў пра час і месца галасавання *(не пазней за 10 дзён да выбараў)* | Да 9 сакавіка 2006 г. уключна | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Забеспячэнне ўчастковых выбарчых камісій бюлетэнямі для галасавання *(не пазней за 7 дзён да выбараў)* | Да 11 сакавіка 2006 г. уключна | Тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі |
| Арганізацыя датэрміновага галасавання для выбаршчыкаў, што не маюць магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы жыхарства *(не пазней за пяць дзён да выбараў)* | З 14 сакавіка па 18 сакавіка 2006 г. уключна, у перыяд з 10.00 да 14.00 і з 16.00 да 19.00 | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Галасаванне ў дзень выбараў | 19 сакавіка, з 8.00 да 20.00 | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Прыняцце просьбаў грамадзян аб арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў | Да 18.00 19 сакавіка 2006 г. | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Ускрыццё скрыняў для галасавання і падлік галасоў | З 20.00 19 сакавіка 2006 г. без перапынкаў да атрымання вынікаў галасавання па ўчастку | Участковыя выбарчыя камісіі |
| Прадстаўленне пратаколаў аб выніках галасавання ў адпаведную раённую, гарадскую, раённую ў горадзе тэрытарыяльную выбарчую камісію | Неадкладна па заканчэнні падліку галасоў і складанні пратаколаў | Старшыня, альбо намеснік старшыні, альбо сакратар участковай выбарчай камісіі |
| Вызначэнне вынікаў галасавання ў раёне, горадзе, раёне ў горадзе і іх прадстаўленне ў абласную, Мінскую гарадскую камісіі *(неадкладна, але не пазней як праз тры дні пасля заканчэння галасавання)* | Да 22 сакавіка 2006 г. | Раённыя, гарадскія, раённыя ў горадзе выбарчыя камісіі |
| Вызначэнне вынікаў галасавання па вобласці альбо горадзе Мінску і іх прадстаўленне ў Цэнтральную камісію *(неадкладна, але і не пазней як праз чатыры дні пасля заканчэння галасавання)* | Да 23 сакавіка 2006 г. | Абласныя, Мінская гарадская камісіі |
| Вызначэнне вынікаў выбараў *(не пазней як праз 10 сутак па заканчэнні галасавання)* | Да 20.00 29 сакавіка 2006 г. | Цэнтральная камісія |
| Апублікаванне вынікаў выбараў *(не пазней як праз тры дні з моманту падпісання пратакола аб выніках выбараў)* | Да 1 красавіка 2006 г. | Цэнтральная камісія |
| Правядзенне другога тура выбараў у выпадку, калі ніхто з кандыдатаў не набраў больш за палову галасоў грамадзян, што бралі ўдзел у галасаванні *(не пазней як у двухтыднёвы тэрмін з дня галасавання)* | Да 2 красавіка 2006 г. уключна | Па рашэнні Цэнтральнай камісіі — выбарчымі камісіямі. |

** Дадзены каляндарны план не з'яўляецца афіцыйным дакументам Цэнтрвыбаркама Рэспублікі Беларусь.*

## *Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў*

Цэнтральная камісія

— арганізуе правядзенне выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

— ажыццяўляе на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь кантроль за выкананнем заканадаўства аб выбарах, дае тлумачэнні гэтага заканадаўства ў мэтах ягонага аднолькавага выканання;

— у выпадку неабходнасці звяртаецца да суб'ектаў, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, з прапановамі аб тлумачэнні Выбарчага кодэкса і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб выбарах;

— ажыццяўляе кіраўніцтва дзейнасцю камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

— забяспечвае выкананне роўных прававых умоў перадвыбарнай дзейнасці палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

*(Вытрымка з артыкула 33 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.)*

Прыём грамадзян у Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў на перыяд падрыхтоўкі і правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будзе ажыццяўляцца па адрасе: **г.Мінск, вул.Савецкая, 11 (правае крыло), кабінет 172, тэлефон: 227-17-52.**

Графік працы аддзела лістоў і прыёму грамадзян Цэнтральнай камісіяй:

працоўныя дні — з 9.00 да 19.00 (без абеду), субота — з 10.00 да 15.00 (без абеду).

Апарат Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў:

**ЯРМОШЫНА Лідзія Міхайлаўна**, старшыня Цэнтральнай камісіі, **227-19-03**;

**ЛАЗАВІК Мікалай Іванавіч**, сакратар Цэнтральнай камісіі, **289-15-75**.

*Па матэрыялах сайта Цэнтрвыбаркама http://www.rec.gov.by*

**СОЛИДАРНОСТЬ**

## *Российские демократы поддержат Милинкевича*

*Мы уже сообщали, что на прошлой неделе в Москве побывали представители белорусских демсил, в том числе и те, кто включился в борьбу за президентский пост. Один из лидеров СПС* ***Борис НЕМЦОВ*** *поделился с сайтом "Белорусский партизан" своими впечатлениями от встреч с белорусскими политиками.*

**— Борис Ефимович, какое впечатление произвел на Вас Александр Милинкевич?**

— Милинкевич находится в хорошей боевой форме, полон решимости бороться. Это умный, порядочный, интеллигентный человек. Для белорусского народа было бы просто благом, если бы он стал президентом. Уверен, что качество жизни белорусов за пару-тройку лет возросло бы в разы.

Власти, конечно, ставят оппозицию в невероятно тяжелые условия (даже по срокам — - будь то регистрация инициативных групп, будь то сбор подписей). Но мне очень нравятся последние опросы. Растет популярность Милинкевича среди населения, все больше становится у него сторонников. Хотя, конечно, впереди очень много работы.

**— Есть ли смысл белорусской оппозиции искать помощи и поддержки в России, у тех же олигархов, политиков?**

— Уверен, что российские олигархи могут помочь только Лукашенко, они побоятся поддерживать оппозицию. Что касается демократических политиков, то они, конечно, будут всячески поддерживать Милинкевича и белорусскую оппозицию в целом. Такая поддержка будет со стороны Союза Правых Сил и, надеюсь, "Яблока". Помощь будет происходить только в рамках белорусского законодательства.

**— У Вас нет ощущения некого дежа вю? Ведь события в Украине развивались очень похоже. Со стороны России шла тотальная поддержка Януковича, и только отдельные политики, в том числе и Вы, поддерживали Ющенко. Все говорили, что это бессмысленно, а Ющенко победил. Вам не кажется, что в Беларуси может все повториться?**

— Все-таки Украина при Кучме не была диктаторской страной, как сейчас Беларусь при Лукашенко. В Украине были свободные СМИ, в том числе и телеканал. Нельзя забывать и о том, что Ющенко был членом парламента. Поэтому все-таки Беларусь такая же, как Туркмения, Узбекистан, Куба, Корея. То есть находится совсем в другом ряду государств. Поэтому и оппозиция находится в гораздо более сложных условиях. Одни только поправки в Уголовный кодекс чего стоят. Украинская власть была гораздо мудрее и порядочнее.

**ЭКСКУРС**

## *Кто хотел быть президентом Беларуси в 2001 году?*

По официальным данным Центризбиркома, в 2001 году в борьбу за президентское "кресло" желали вступить 25 претендентов: директор Международного института менеджмента, депутат Верховного Совета 13-го созыва **Виктор Терещенко**; бывший министр обороны Беларуси **Павел Козловский**; вице-президент международной ассоциации "Защита прав человека" **Николай Мекеко**; лидер Партии коммунистов Белорусской **Сергей Калякин**; политик **Александр Лукашенко**; лидер Консервативно-Христианской партии — БНФ **Зенон Позьняк**; лидер незарегистрированной организации "Региональная Беларусь" **Семен Домаш**; директор общества с ограниченной ответственностью "Ліпень" **Алексей Ляшко**; бывший вице-премьер правительства **Леонид Синицын**; лидер Федерации профсоюзов Белорусской **Владимир Гончарик**; лидер незарегистрированной организации "Рабочая самопомощь" **Сергей Антончик**; Чрезвычайный и Полномочный посол Беларуси в Латвии, Эстонии и Финляндии по совместительству **Михаил Маринич**; председатель республиканского комитета Белорусского профсоюза работников агропромышленного комплекса **Александр Ярошук**; инженер электронной техники, юрист, временно не работающий **Константин Кононович**; генеральный директор ЗАО "Атлант" **Леонид Калугин**; предприниматель, офицер запаса КГБ **Валентин Семак**; депутат Палаты представителей, дочь бывшего первого секретаря ЦК КПБ Петра Машерова **Наталья Машерова**; бывший вице-премьер Беларуси **Михаил Чигирь**; заведующая филиалом, библиотекарь Белорусского государственного экономического университета **Нина Лобанова**; председатель стачкома предпринимателей **Валерий Левоневский**; главный режиссер театра сатиры и юмора "Христофор" **Евгений Крыжановский**; депутат Мингорсовета, предприниматель **Юрий Даньков**; депутат Палаты представителей, руководитель ЗАО "Торговый Дом БелБабаевское" **Сергей Скребец**; лидер Либерально-демократической партии **Сергей Гайдукевич**; пенсионер **Владимир Лапцевич**. Однако в конечном итоге на финишной прямой оказались трое — **Гончарик, Лукашенко и Гайдукевич.** Многие не собрали необходимые для регистрации сто тысяч подписей, а некоторых просто "зарубили".

На этот раз **Наталья Машерова, Евгений Крыжановский, Павел Козловский, Александр Ярошук, Николай Мекеко** и другие приняли твердое решение не участвовать в будущих президентских выборах.

**Машерова** уверена, что и без нее *"кандидатов будет достаточно"*.

**Крыжановский** признается, что уже не раз пожалел о том, что в свое время решил заняться политикой.

*"После прошлой кампании я понял, что каждый должен заниматься своим делом",* — сделал вывод Евгений Анатольевич.

**Мекеко** считает выборы с участием Лукашенко незаконными, *"так как прошлогодний референдум нелегитимен"*.

Кстати, как отметила в одном из своих интервью председатель Центризбиркома **Лидия Ермошина**, смета президентских выборов рассчитывалась примерно на десять кандидатов.

**Марина КОКТЫШ.**

Паскаль ФАНТЭЙН

# Еўропа: 12 урокаў

## Асноўныя вехі ў гісторыі еўрапейскай інтэграцыі

## 11.Еўрапейскі Саюз на сусветнай арэне

*(Працяг. Пачатак у №№241—247.)*

У эканамічных, гандлёвых і фінансавых адносінах Еўрапейскі Саюз ператварыўся ў буйную сусветную сілу. Ён валодае значным уплывам у міжнародных арганізацыях, такіх як Сусветная гандлёвая арганізацыя (СГА), спецыялізаваныя ўстановы ААН, а таксама на сусветных самітах у пытаннях навакольнага асяроддзя і развіцця.

Хто-ніхто кажа, што ЕС — эканамічны волат, але палітычны карлік. Вядома, гэта перавелічэнне. Аднак праўда тое, што ў дыпламатычным і палітычным плане дзяржавам ЕС належыць прайсці доўгі шлях, перш чым яны здолеюць выказваць адзіную думку ў такіх сур'ёзных пытаннях, як мір і стабільнасць, тэрарызм, Блізкі Усход, стасункі з ЗША і роля Савета бяспекі ААН. Краіны ЕС захоўваюць поўны нацыянальны суверэнітэт над сваімі ўзброенымі сіламі. Іх сістэмы абароны цалкам знаходзяцца ў руках нацыянальных урадаў і знітаваныя толькі тымі сувязямі, што створаныя ў межах такіх блокаў, як НАТО.

### Зараджэнне агульнай палітыкі ў галіне абароны

Агульная вонкавая палітыка і палітыка ў галіне бяспекі, а таксама палітыка ў галіне еўрапейскай бяспекі і абароны (ПЕБА), прадугледжаныя Маастрыхцкім і Амстэрдамскім дагаворамі, вызначаюць галоўныя задачы ЕС у галіне абароны.

На гэтай падставе ЕС распрацаваў сваё "другое апірышча" — галіну палітыкі, у якой рашэнні прымаюцца шляхам згоды паміж урадамі і дзе Камісіі і парламенту адводзіцца другарадная роля. Рашэнні ў гэтай сферы прымаюцца згодна з прынцыпам кансенсусу, які дазваляе асобным краінам устрымацца.

У апошні час палітычнае і стратэгічнае становішча ЕС мела наступны выгляд.

* Паколькі Расія ідзе шляхам партнёрства з Захадам, а былыя камуністычныя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы практычна адначасова ўступаюць у НАТО і ЕС, больш чым паўвекавая гісторыя халоднай вайны сапраўды засталася далёка ззаду. Еўрапейскі кантынент набывае рысы міру і згоды, еўрапейскія краіны супрацоўнічаюць у галіне барацьбы з міжнароднай злачыннасцю, такой як нелегальная іміграцыя і адмыванне грошай. ЕС наладзіў арганізаваныя партнёрскія стасункі са сваімі буйнымі суседзямі, такімі як Расія і Украіна, не маючы на мэце іх далучэнне да Еўрапейскага Саюза, ва ўсякім разе ў сярэднетэрміновай перспектыве.

* Дзяржавы ЕС імкнуцца пабудаваць еўрапейскую палітыку ў галіне бяспекі і абароны згодна з дагаворамі. У снежні 1999 года пасяджэнне Еўрапейскага савета ў Хельсінкі паставіла перад ЕС канкрэтную задачу: забяспечыць магчымасць разгортваць за 60 дзён баявыя сілы колькасцю да 60 000 вайскоўцаў, пры падтрымцы з мора і паветра, і падтрымліваць іх у боегатоўнасці па меншай меры на працягу года. Гэтыя сілы хуткага рэагавання не з'яўляюцца еўрапейскай арміяй, яны будуць складацца з кантынгентаў нацыянальных узброеных сіл. Аднак іх дзеянні будуць каардынавацца Камітэтам палітыкі і бяспекі, Вайсковым камітэтам і вайсковым штабам пад эгідай Савета. Яны будуць раскватараваныя ў Бруселі. Гэта забяспечыць Саюзу палітычны і вайсковы сродак выканання пэўных задач — гуманітарных і ратавальных місій па-за межамі Еўропы, міратворчых аперацый і іншых задач у надзвычайных сітуацыях.

* ЗША згодныя, каб у баявых дзеяннях, у якіх Амерыка не жадае ўдзельнічаць, Еўропа магла скарыстоўваць частку матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння НАТО, напрыклад, яго разведку, службы сувязі, кіравання і транспарту.

* Рэальныя сродкі абароны і застрашвання, такія як ядзерная зброя, што маецца на ўзбраенні Францыі і Вялікабрытаніі, застаюцца пад нацыянальным кантролем. Па меры таго, як вайсковая тэхніка робіцца ўсё больш дарагой і дасканалай, урады краін ЕС будуць бачыць усё большую неабходнасць супрацоўнічаць у вытворчасці ўзбраенняў. Калі іх узброеныя сілы будуць выконваць сумесныя аперацыі, то іх сістэмы мусяць быць сумяшчальнымі, а абсталяванне дастаткова стандартызаваным.

* Атакі на Вашынгтон і Нью-Йорк 11 верасня 2001 года і разгул тэрарызму, што ахапіў пасля многія рэгіёны свету, карэнным чынам змянілі стратэгічнае становішча. Еўрапейскія краіны наладзілі шчыльнае супрацоўніцтва ў пытаннях абмену інфармацыяй, якая можа дапамагчы ў прадухіленні такіх атак. Паколькі барацьба з тэрарызмам з'яўляецца глабальным прыярытэтам, сёння Еўропа выходзіць за межы сваіх традыцыйных альянсаў, супрацоўнічаючы не толькі з ЗША, але і з многімі іншымі краінамі свету ў падтрымцы дэмакратыі і правоў чалавека.

З улікам гэтага зменлівага стратэгічнага становішча Еўрапейскі Саюз стараецца захоўваць аптымальны баланс паміж markrознымі традыцыямі сваіх нацый у галіне палітыкі бяспекі і абароны.

### «Калі я пажадаю пагутарыць з Еўропай, каму тэлефанаваць?»

Канвенцыя аб будучыні Еўропы прапануе змены, што маглі б даць Еўропе нашмат больш выразную тоеснасць. Шэраг краін падтрымліваюць ідэю наконт прэзідэнта ЕС, які быў бы ўпаўнаважаны выступаць ад імя саюза на міжнароднай арэне. Такім прэзідэнтам мог бы з'яўляцца член або былы член Еўрапейскага савета, і тэрмін яго паўнамоцтваў быў бы даўжэйшы, чым цяперашні тэрмін паўнамоцтваў старшыні Савета. Гэта было б адказам на знакамітае пытанне **Генры Кісінджэра,** зададзенае ў 1970-х гадах: *"Калі я пажадаю пагутарыць з Еўропай, каму тэлефанаваць?".*

Аднак цэлы шэраг пытанняў застаецца адкрыты. Як будзе прызначацца гэты прэзідэнт ЕС? Якая будзе яго рэальная ўлада? Што стане з цяперашнім вярхоўным прадстаўніком у пытаннях агульнай вонкавай палітыкі і палітыкі ў галіне бяспекі? Ці будзе прэзідэнт ЕС мець уладу над вайсковым штабам і сіламі хуткага рэагавання ЕС? Якія сродкі дэмакратычнага кантролю будуць распаўсюджвацца на прэзідэнта? Ці павінны будзе прэзідэнт атрымліваць згоду кожнага члена Еўрапейскага савета, перш чым прымаць любое важнае рашэнне? Як будзе пасада прэзідэнта ЕС суадносіцца з пасадамі старшыні Еўрапейскай камісіі і члена Еўрапейскай камісіі, адказнага за вонкавыя сувязі?

Амстэрдамскі дагавор таксама ставіў задачу ўсталяваць працэдуру, якая забяспечвала б дадатковую гнуткасць у сферы вонкавай палітыкі і палітыкі ў галіне бяспекі. Прынцып "павышанага ўзаемадзеяння" дазволіў бы групе краін ажыццяўляць дзейнасць, у якой іншыя дзяржавы саюза не жадаюць браць удзел, напрыклад зважаючы на традыцыі нейтралітэту.

Складанасць гэтага нібыта прагматычнага рашэння палягае ў тым, што інтэграцыя саюза ўвогуле і давер да яго на міжнароднай арэне пахіснуліся б, калі б еўрапейская вонкавая палітыка ператварылася ў рэч са "зменлівай геаметрыяй". Яшчэ больш узрасла б рызыка разрыву сувязей паміж унутранай палітыкай ЕС (кіраванне адзіным рынкам, палітыка канкурэнцыі, эканамічны і фінансавы саюз, унутраная бяспека і да т.п.) і яго вонкавай палітыкай (гандаль, падтрымка развіцця, дыпламатыя і абарона).

У будучыні надзвычай важна, каб еўрапейцы дзейнічалі разам і мелі палітыку, зразумелую ўсім. Неабходна, каб еўрапейскія краіны выступалі аднадушна, дэманстравалі рашучасць у адстойванні сваіх асноўных інтарэсаў і пахісную салідарнасць у абароне лёсу сваіх народаў.

### Адкрытая свету Еўропа

Завяршэнне афармлення адзінага рынку ў 1993 годзе паўплывала на гандлёвую палітыку ЕС. Абмежаванні на імпарт, якія раней краіны ЕС мелі права накладаць, зараз марудна, але няўхільна скасоўваліся, гэтаксама як і ўнутранае размеркаванне "жыццёва важных" прадметаў імпарту, такіх як тэкстыль, сталь, аўтамабілі і вырабы электроннай прамысловасці. СГА, створаная на ініцыятыву Еўропы, з'явілася сталым форумам вырашэння гандлёвых спрэчак праз шматбаковыя перагаворы.

Сярэднеўзважаны аб'ём мытных пошлін на прамысловыя тавары, што ўвозяцца ў Еўрапейскі Саюз, складае меней за 5%. ЕС і яго сусветныя гандлёвыя партнёры дамовіліся пра новыя правілы гандлю паслугамі і прадукцыяй сельскай гаспадаркі. Дыскусіі пра сельскую гаспадарку выявілі разыходжанні ў поглядах вытворцаў па абодва бакі Атлантычнага акіяна. Паколькі ЕС выступіў на гэтых перамовах адзіным фронтам, яму ўдалося наладзіць дзейсную абарону пункту погляду дзяржаў-удзельніц.

ЕС уяўляе сабой адзіны гандлёвы блок і з'яўляецца домам для 373 мільёнаў спажыўцоў (амаль што паўмільярда пасля пашырэння), якія маюць параўнальна высокі сярэдні ўзровень даходаў. Сам па сабе гэта вельмі прывабны рынак для экспарцёраў у іншых краінах. ЕС можа скарыстоўваць свой уплыў, каб перакануць гандлёвых партнёраў выконваць правілы гульні, што забяспечваюць сумленную канкурэнцыю і роўны ўзаемны доступ на рынкі.

### Важны партнёр у індустрыяльным свеце

З пункту гледжання ЗША, новая Еўропа, што зараз будуецца, уяўляе сабой не толькі саюзніка, які падзяляе тыя самыя каштоўнасці, але і канкурэнта ў гандлі і тэхналогіі. Блок НАТО, які аб'ядноўвае ЗША і многія краіны ЕС, спрыяў змякчэнню наступстваў трансатлантычных рознагалоссяў у пытаннях сельскагаспадарчай прадукцыі, сталі і аэракасмічнай прамысловасці.

Радыкальныя змены, што адбыліся напрыканцы XX стагоддзя, у прыватнасці сканчэнне халоднай вайны, ператварылі свет міжнароднай палітыкі. У гэтых новых умовах краіны НАТО мусяць пераглядаць свае стасункі. Еўраамерыканскае супрацоўніцтва мае патрэбу ў новых мэтах. Саюзнікі мусяць разам працаваць дзеля папярэджвання новых пагроз: распаўсюду ядзернай зброі, міжнароднага тэрарызму, міжнароднай злачыннасці, напрыклад, гандлю наркотыкамі, і да т.п. У галіне гандлю і інвестыцый Еўрапейскі Саюз з'яўляецца галоўным і адзіным партнёрам ЗША, з якім у іх стабільныя стасункі. Тым не менш Еўропе даводзіцца сутыкацца з пэўнай схільнасцю Кангрэса ЗША рабіць аднабаковыя дзеянні, здольныя пагражаць глабальным інтарэсам Еўропы.

### Стасункі паміж ЕС і краінамі Міжземнамор'я

На невялікай адлегласці ад Еўропы, на паўднёвым беразе Міжземнага мора, знаходзяцца краіны, з якімі ЕС мае гістарычныя і культурныя сувязі. Між гэтымі двума рэгіёнамі адбываецца ажыўленая міграцыя, якая ў будучыні можа стаць яшчэ больш інтэнсіўнай. Таму гэтыя краіны з'яўляюцца вельмі важнымі партнёрамі для ЕС, які традыцыйна прытрымліваўся палітыкі міжземнаморскай рэгіянальнай інтэграцыі.

Міжземнаморскія суседзі ЕС аднымі з першых усталявалі асаблівыя эканамічныя і гандлёвыя стасункі з саюзам. У лістападзе 1995 года ў Барселоне адбылася важная канферэнцыя, у якой бралі ўдзел усе дзяржавы ЕС і краіны Міжземнамор'я (за выключэннем Лівіі, Албаніі і былых рэспублік Югаславіі). Гэтая канферэнцыя заклала падмурак новага еўра-міжземнаморскага партнёрства, што мае на ўвазе:

— палітычны дыялог паміж краінамі-ўдзельніцамі і партнёрства ў галіне бяспекі, заснаванае, у прыватнасці, на механізмах кантролю над узбраеннямі і мірнага вырашэння канфліктаў;

— развіццё эканамічных і гандлёвых сувязей паміж двума рэгіёнамі. Ключавой задачай пры гэтым з'яўляецца стварэнне да 2010 года еўра-міжземнаморскай зоны свабоднага гандлю згодна з правіламі СГА. Калі гэта адбудзецца, з'явіцца магчымасць без пошлін гандляваць таварамі на трансміжземнаморскім рынку, які стане найбуйнейшай у свеце зонай свабоднага гандлю, што ахопіць да 800 мільёнаў спажыўцоў;

— партнёрства ў сацыяльнай, культурнай і іншых галінах.

### Афрыка

Сувязі паміж Еўропай і афрыканскімі краінамі рэгіёна Сахары маюць даўнюю гісторыю. З падпісаннем Рымскага дагавора ў 1957 годзе былыя калоніі і заморскія тэрыторыі шэрагу краін ЕЭС сталі асацыяванымі членамі Супольнасці. Дэкаланізацыя пачатку 1960-х гадоў ператварыла гэтыя сувязі ў лучнасць новага тыпу — аб'яднанне суверэнных краін.

Пагадненне ў Катану, падпісанае ў чэрвені 2000 года ў сталіцы Беніна, адзначыла пачатак новага этапа ў палітыцы развіцця ЕС. Пагадненне паміж Еўрапейскім Саюзам і краінамі Афрыканскага, Карыбскага і Ціхаакіянскага рэгіёнаў з'яўляецца найбольш амбіцыйным і далёка ідучым пагадненнем аб гандлі і дапамозе, што калі-небудзь заключалася паміж развітымі і развіванымі краінамі. Яно стала лагічным працягам Ламэйскай канвенцыі, што напачатку была падпісана ў 1975 годзе ў сталіцы Тога і потым дапрацоўвалася праз рэгулярныя прамежкі часу.

Асноўная мэта пагаднення тая самая, што і Ламэйскай канвенцыі, — *"спрыянне паскарэнню эканамічнага, культурнага і сацыяльнага развіцця дзяржаў Афрыканскага, Карыбскага і Ціхаакіянскага рэгіёнаў, а таксама кансалідацыя і дыверсіфікацыя іх стасункаў (з Еўрапейскім Саюзам і яго дзяржавамі-ўдзельніцамі) у духу салідарнасці і ўзаемнай выгады".*

Прадметам Ламэйскай канвенцыі былі гандлёвыя стасункі і доступ на рынак. Пагадненне ў Катану закранае больш шырокае кола пытанняў. Напрыклад, уводзіць новыя працэдуры разгляду праблем парушэння правоў чалавека.

Еўрапейскі Саюз даў асаблівыя гандлёвыя льготы найменш развітым краінам.

Еўрапейскі фонд развіцця фінансуе праграмы для краін Афрыканскага, Карыбскага і Ціхаакіянскага рэгіёнаў з бюджэту ў суме 13,5 мільярда еўра на сямігадовы перыяд. Гэта з'яўляецца дадаткам да тых 9,5 мільярда еўра, што ўяўляюць сабой рэшту раней выдзеленых сродкаў, і 1,7 мільярда, прадастаўленых у выглядзе пазыкі Еўрапейскім інвестыцыйным банкам.

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

АФІЦЫЙНА

## Заходзьце, госці!

**У Калядныя і Навагоднія дні для жыхароў памежных раёнаў Беларусі і Літвы будзе спрошчана працэдура перасячэння мяжы для наведвання блізкіх, якія жывуць у суседняй краіне. Пра гэта паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі.**

Згодна з дамоўленасцю знешнепалітычных ведамстваў дзвюх краін, з 30 снежня па 3 студзеня і з 6-га па 8 студзеня з 10.00 да 17.00 супрацоўнікамі пагранслужбаў будзе ажыццяўляцца пропуск памежнага насельніцтва ў раней дзейных пунктах спрошчанага пропуску: "Кемелішкі (Беларусь) — Прыенай (Літва)", "Пяцюлеўцы (Беларусь) — Ракай (Літва)", "Піцкуны (Беларусь) — Нарвелішкес (Літва)".

Праз названыя кантрольна-прапускныя пункты мяжу змогуць перасякаць жыхары памежных раёнаў, якія не вязуць тавары і маюць неабходныя дарожныя дакументы.

Адначасова МЗС інфармуе, што на беларуска-літоўскай мяжы не дзейнічае пункт пропуску "Катлоўка — Лаварышкес", дзе зараз вядзецца работа па ўдасканальванні інфраструктуры КПП.

---

ЗАДУМАЕМСЯ...

## Кто купил дороже?

*Многие недоумевают, почему Россия так дешево продает Беларуси газ. Если Грузии цену на него повысили в два раза и с нее требуют в новом году 110 долларов за тысячу кубометров голубого топлива, а с Украины — более 200 долларов, то для Беларуси осталась прежняя цена — около 47 долларов. Как видим, для нашей страны намного дешевле.*

Но это только видимая часть проблемы. Когда же начинаешь вникать в суть дела, о которой белорусские власти и их пропагандисты не любят говорить, то картина резко меняется. Вот что сказал глава российского "Газпрома" А.Миллер, комментируя газовые отношения с нашей страной: *"Беларусь является единственной страной, на территории которой экспортный магистральный газопровод принадлежит "Газпрому" на правах собственности... Возобновлены предметные переговоры по "Белтрансгазу", успешное завершение которых будет означать, что "Газпром" получит контроль над всей газотранспортной системой Беларуси".* Эту же мысль высказал заместитель председателя правления ОАО "Газпром" А.Медведев.

Поняли, в чем суть? Один газопровод — уже собственность России. Вскоре и второй будет не наш, и тогда вся газотранспортная система Беларуси окажется в руках России. А каждый из этих газопроводов, по оценке аналитиков, стоит 4—5 миллиардов долларов. Вот какую, оказывается, цену мы платим за "дешевый" газ. К тому же, если газопроводы станут российскими, страна ежегодно не будет получать миллионы долларов за прокачку газа. Заметим, российские газпромовцы напоминают, что дешевый газ для Беларуси кончается через год.

Украина, в отличие от нас, свои газотранспортные магистрали не отдает России. Вот и посчитайте, кому на самом деле российский газ стоит дороже. Выходит, белорусские власти накануне президентских выборов готовы отдать за бесценок общенациональное достояние лишь бы продемонстрировать показуху с ценой на газ.

**Андрей ПЕТРОВ.**

---

# Будзем разам!

Шаноўныя сябры!

Яшчэ раз друкуем узоры бланкаў **па перадаплаце за студзеньскія нумары "Народнай волі"**. Робім гэта па просьбе тых індывідуальных чытачоў, хто яшчэ не паспеў пералічыць праз **філіялы "Беларусбанка" на рахунак "Народнай волі" 7000 беларускіх рублёў.** Арганізацыям, прадпрыемствам, установам, фірмам трэба пералічыць **15.000 рублёў** і таксама, як і індывідуальным чытачам, накіраваць у рэдакцыю копію плацёжкі з падрабязным хатнім адрасам. Пішыце — разборліва.

Просім улічыць, што нязручнасці для Вас стварылі не мы, журналісты "Народнай волі". З-за рэпрэсій улад мы вымушаны пайсці на такую незвычайную форму выратавання газеты, выратавання свабоднага слова, дэмакратыі. І тут, паважаныя сябры, многае залежыць ад Вас, ад Вашай грамадзянскай пазіцыі. Да 31 снежня Вы павінны канчаткова вырашыць — у студзені 2006 года мы будзем разам ці не? Хочацца, каб былі разам! Таму, пакуль не позна, запаўняйце бланк — і ў любы філіял "Беларусбанка". А мы, са свайго боку, абяцаем Вам у студзені 17 нумароў "Народнай волі". Дарэчы, тысячы чытачоў ужо падтрымалі "Народную волю".

Падтрымайце і Вы!

*(Узор бланка для індывідуальных чытачоў.)*

0402280179

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

**ИЧУП «Народная воля»**
получатель платежа
**«Приорбанк» ОАО филиал №0113**
наименование банка
Счет получателя **3012207630018** Лицевой счет **код 726**
УНН* **100961759**
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Предоплата за январские номера газеты | | | | 7000 руб. |
| Плательщик | | | Пеня | |
| | | | Всего | 7000 руб. |

**Кассир**

**ИЧУП «Народная воля»**
получатель платежа
**«Приорбанк» ОАО филиал №0113**
наименование банка
Счет получателя **3012207630018** Лицевой счет **код 726**
УНН* **100961759**
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Предоплата за январские номера газеты | | | | 7000 руб. |
| Плательщик | | | Пеня | |
| | | | Всего | 7000 руб. |

**КВИТАНЦИЯ**

**Кассир** М.П.

* Заполняется только при осуществлении операции по уплате налогов.

*(Узор бланка для арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, фірм.)*

0402280179

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

**ИЧУП «Народная воля»**
получатель платежа
**«Приорбанк» ОАО филиал №0113**
наименование банка
Счет получателя **3012207630018** Лицевой счет **код 726**
УНН* **100961759**
(наименование организации)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Предоплата за январские номера газеты | | | | 15000 руб. |
| Плательщик | | | Пеня | |
| | | | Всего | 15000 руб. |

**Кассир**

**ИЧУП «Народная воля»**
получатель платежа
**«Приорбанк» ОАО филиал №0113**
наименование банка
Счет получателя **3012207630018** Лицевой счет **код 726**
УНН* **100961759**
(наименование организации)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Предоплата за январские номера газеты | | | | 15000 руб. |
| Плательщик | | | Пеня | |
| | | | Всего | 15000 руб. |

**КВИТАНЦИЯ**

**Кассир** М.П.

* Заполняется только при осуществлении операции по уплате налогов.

---

ДИПКУРЬЕР

## Украина определилась со своим послом в Минске

Белорусская сторона выдала агреман на предложенную Украиной кандидатуру нового посла в Минске, сообщил "Интерфаксу" источник в МИД Беларуси.

"Теперь сроки назначения зависят от украинской стороны", — отметил собеседник агентства, добавив, что в Минске кандидатуру считают удачной.

По информации "Интерфакса", украинская сторона предложила на пост главы дипмиссии в Минске заместителя министра иностранных дел Валентина Наливайченко.

Валентин Наливайченко — карьерный дипломат, ранее работал директором консульской службы МИД Украины.

Отметим также, что своих послов в Минске до сих пор не имеют такие наши ближайшие соседи, как Россия и Польша.

---

ТРЫВОЖНЫЯ ЛІЧБЫ

## Мінус трыццаць тысяч

**За 2005 год індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі паменела на 30 тысяч — гэта амаль пятая частка ад агульнай колькасці на пачатак года. Такія звесткі падае Беларускі саюз прадпрымальнікаў. Яшчэ дваццаць тысяч "індывідуалаў" знаходзяцца ў стане ліквідацыі.**

Цяпер у Беларусі каля 186 тысяч зарэгістраваных індывідуальных прадпрымальнікаў. А будзе меней. Як паведаміў намеснік старшыні Беларускага саюза прадпрымальнікаў Рыгор Рылькоў, "з 2007 года зноў пачне дзейнічаць пастанова наконт забароны гандлю парфумай. 1 студзеня таго ж 2007 года скончыцца тэрмін дзеяння шапікаў на прыпынках".

Да таго ж, могуць істотна абмежаваць пералік тавараў, якімі можна будзе гандляваць на рынку, сцвярджае спадар Рылькоў. Размова вядзецца пра імпартныя кандытарскія вырабы і абутак.

**Алена НОВІКАВА.**

---

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Беларуса-тэрарыста адправілі ў турму

Суддзя Нацыянальнай судовай калегіі Іспаніі Фернанда Андрэу прыняў рашэнне адправіць у турму шэсць з 18 затрыманых у панядзелак у розных рэгіёнах Іспаніі асоб, якія падазраюцца ў падрыхтоўцы тэрарыстаў для адпраўкі ў Ірак, Чэчню, Кашмір і іншыя раёны свету, паведамляюць РІА "Новости". Астатнія 12 затрыманых адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе да дня суда.

Сярод адпраўленых у турму шасці падазроных у прыналежнасці да "Аль-Каеды" знаходзіцца і беларускі грамадзянін мусульманскага веравызнання — нехта Андрэй Місюра (ён жа Сяргей Малышаў). Пры пераходзе ў іслам беларус узяў імя Амін аль-Ансары.

Суддзя зазначыў, што Місюра, які прыняў іслам у 1998 годзе, хаця і быў затрыманы ў горадзе Пальма-дэ-Маёрка на Балеарскіх астравах 19 снежня, не меў сталага месца жыхарства. Ён раз'язджаў па краінах Еўропы, выконваючы ўказанні кіраўніцтва тэрарыстаў і навучаючы на месцы баевікоў ваеннай справе. У прыватнасці, у Іспаніі ён навучыў 22-гадовага тэрарыста-смяротніка студэнта Усаму Агарбі, які быў гатовы да адпраўкі ў Ірак.

Як паведаміў раней міністр унутраных спраў Іспаніі Хасэ Антоніа Алонса, Місюра браў удзел у ваенных дзеяннях у Чэчні і Пакістане, навучаў баевікоў у гэтых краінах. Ён з'яўляецца спецыялістам па хімічнай зброі, і яго даўно шукаюць спецслужбы шэрагу краін Еўропы.

Улады Беларусі, нагадаем, пацвердзілі, што затрыманы ў Іспаніі — ураджэнец Мінска Андрэй Місюра, які сапраўды праходзіць па ўліках грамадзян Рэспублікі Беларусь, аднак з 1999 года на тэрыторыі краіны пастаянна не жыве. Начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Валерый Надтачаеў паведаміў, што ў 2004—2005 гадах па лініі Інтэрпола паступілі звесткі аб затрыманні А.Місюры за незаконнае знаходжанне на тэрыторыі Германіі, Італіі і Партугаліі. Аднак якой-небудзь афіцыйнай інфармацыі аб вышуку гэтага грамадзяніна за ўчыненне злачынстваў у праваахоўныя органы Беларусі на сённяшні дзень не паступала.

Па іншых звестках, Місюра з'яўляецца афіцэрам запасу, ён скончыў ваенную кафедру па спецыяльнасці "ваенны хімік".

У выпадку звароту праваахоўных органаў Іспаніі беларускі бок гатовы правесці неабходныя мерапрыемствы ў дачыненні да грамадзяніна Беларусі, затрыманага на тэрыторыі гэтай краіны па падазрэнні ў сувязях з тэрарыстычнай арганізацыяй "Аль-Каеда", заявілі ў КДБ Беларусі.

**Андрэй СЕРАДА.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
ФДУП "Смоленский полиграфический Комбинат", 214020, г.Смаленск, вул. Смальянінава, д.1.
Падпісаны ў друк 27.12.2005 у 12.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 100 000 экз. Заказ № 13354.